# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1197) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 4 ЛЮТАГА 1979 г. ЦАНА 60 гр.



*У беластоцкім парку.* *Фота Я. Целушэцкага.*

# ПАКЛОН АДДАЕ БЕЛАРУСЬ...

Прыгожы падарунак прывёз нам на Беласточчыну амаль 90-асабовы ансамбль песні і танца „Лідчанка“ з БССР. Гэты калектыў — наш стары знаёмы, гасцяваў у нас ужо чацверты раз і падабаўся нам заўсёды, але сёлетняе яго выступленне было асабліва ўрачыстым: гэтымі канцэртамі ў Беластоку, Дуброве, Бельску і Белавежы было ўпрыгожана адзначэнне 60-годдзя стварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і Кампартыі Беларусі ў днях ад 15 да 18 студзеня 1979 года.

Гэты ўрачысты, інтэрнацыянальны (былі беларускія, рускія, польскія, украінскія песні і танцы), а адначасова такі свойскі характар канцэртаў міжволі перадаваўся гледачам, і момантамі яны зліваліся ў адно цэлае і з хорам, якому падспеўвалі, і з салістамі, якім прыклясквалі, а з цэлай той „Лідскай кругавой кадрыллю“ зала, здавалася, закружылася разам ды доўга смяялася шчыра і ахвоча.

Пройдзе яшчэ пару гадоў, і ансамбль песні і танца „Лідчанка“ будзе адзначаць свой 20-гадовы юбілей. Час ляціць хутка, і некаторыя яго члены яшчэ памятаюць, як ён арганізаваўся ў 1961 годзе пры гарадскім Доме культуры ў Лідзе. Хто яны, тыя людзі, што прыйшлі сюды танцаваць, спяваць, іграць не прафесіянальна, не таму, што мусілі рабіць гэта дзеля грошай, а проста так, паколькі інакш не маглі, паколькі клікала іх сюды сэрца?..

Былі гэта людзі розных прафесій: настаўнікі, лекары, эканамісты, рабочыя абутковай фабрыкі, лакафарбавага завода, завода сельскагаспадарчых машын „Лідсельмаш“. Прыйшлі сюды маладыя і старыя, тыя, што раней ужо бралі ўдзел у іншых групах, і тыя, што спявалі толькі „для сябе“. Усіх іх аб'яднала жаданне апынуцца ў сталай мастацкай групе быць на сцэне, вызваліць свой мастацкі талент як мага больш яскрава.

Зенон Бянько, культурна-асветны работнік прафсаюзаў „Лідсельмаша“, спявае ўжо 27 гадоў. У „Лідчанку“ ўступіў адразу, як толькі стварылася, але і раней спяваў пры Доме культуры. Выступаў нават у далёкім Кітаі ў канцы пяцідзесятых гадоў. З Гродзенскім ансамблем „Нёман“ спяваў для касманаўтаў у Звёздным гарадку, што пад Масквой. У Польшчы — адчувае сябе амаль як дома, тым больш, што прыязджае сюды не толькі з ансамблем „Лідчанка“, але часценька наведвае і сваіх тутэйшых родзічаў.

А вось Лявон Івашка, работнік Лідскай цеплаэлектрацэнтралі, спявае ў ансамблі ўсяго два гады. Ён народны артыст БССР і спявае таксама ў мужчынскім хоры Лідсельмаша.

І хаця ў ансамблі, як гэта бывае ў кожнай вялікай мастацкай групе, адны адыходзяць, прыходзяць іншыя, то ўсё ж ёсць тут цвёрды і надзейны ствол — больш паловы яго членаў выступаюць у ім не менш дзесяці гадоў.

Ужо чацверты год мастацкім кіраўніком ансамбля з'яўляецца Канстанцін Казячы, сам родам з Ліды, выпускнік Гродзенскага музыкальнага вучылішча, а пасля і Ленінградскага інстытута культуры (дырыжорскага аддзялення). А наогул у „Лідчанцы“ ён ужо дзесяць год. І спачатку працаваў хармейсцерам. Узмах яго рукі — і са сцэны грымнула музычнае прывітанне: „Працоўнаму люду ў Польшчы Народнай паклон аддае Беларусь!“ І адразу ў зале стала цёпла. Такі настрой суправаджаў канцэрты і тады, калі хор спяваў аб вялікай дружбе людзей на свеце, і тады, калі на сцэну ўскочылі дзяўчаты ў белых клёшных спаднічках і чырвоных з сінімі матроскімі каўнярамі блузачках ды разам са сваімі партнёрамі адтанцавалі пад беларускую жартоўную песню „Янка стаіць на гары“, і тады, калі ў такт „Сямёнаўны“ зала прыклясквала спявачцы Тамары Лысенка, і тады, калі вельмі лірычным сапрана, быццам нясмелым званочкам, Алена Каральчук прасіла: „Подогрей, родная матушка, душу тёплым шепотком“.

Асабліва горача ўспрымаліся жартоўныя песні і танцы. Вось ідзе „Чыжоўская кадрыля“. Пары павольна выплываюць, у дзяўчат на галаве хусткі, фарсіста завязаныя ўверсе вялікімі бантамі, ганарыста задзертыя насы. Нічога дзіўнага: іх вядуць такія ж франты ў стылізаваных, модных у дваццатыя гады шапках з прышпіленымі да іх гваздзікамі. Зала грыміць бісамі. А вось на сцэну выйшла Яніна Карэйва, жанчына, так сказаць, у сіле веку і фігуры, а спявае яна пра тое, як пайшла да „дохтара“, і быў ён „такі маладжавы, такі прыгожы і ласкавы“, што адразу памаладзела яна гадоў на дзесяць, а замест насонных парашкоў то цяпер думае пра „дохтара“. Былі тут і вядомыя беларускія народныя песні „Камара муха любіла“ і „У месяцы верасні“, ну, а калі ўжо завіравала на сцэне славутая „Лявоніха“, у якой удзельнічалі і 25-асабовы балет і 41-асабовы хор, і 14-асабовы аркестр народных інструментаў, захапленню гледачоў не было канца. І не толькі вялікаму майстэрству самадзейнікаў білі яны брава, але і белым боцікам танцораў, і жаночым каляровым спаднічкам у палоску, і ільняным камізэлькам іх партнёраў, і наогул усяму гэтаму шматкалернаму, імклівому карагоду з душой нараспашку, у якім няма месца на боль і смутак, у якім усё залівае адна вялікая радасць тварэння.

Прыемна адзначыць, што адным з арганізатараў святочнага выступлення „Лідчанкі“ на Беласточчыне побач з ВК Фронту адзінства народу і Ваяводскім праўленнем ТППР — было Галоўнае праўленне БГКТ. Дзякуй усім ім за гэта!

**Ада Чэчуга**

З рэпарцёрскіх запісак

# ПАД ЗАЛАТОЙ ВЕХАЙ

Запрасілі мяне на паездку па вёсках, у якіх жывуць тыя гаспадары, што заваявалі ўзнагароды ў конкурсе „Залатая веха-78“. Было нас многа, поўныя два аўтобусы. Кіраўнікі сельскагаспадарчай службы ў гмінах, рэферэнты па будаўнічных справах і, вядома, гаспадары, а прынамсі тыя сярод іх, на якіх мясцовыя арганізатары сельскагаспадарчай вытворчасці ўскладаюць найбольш надзеі, што яны неадкладна ўжо пачнуць гаспадарыць па-сучаснаму, значыць, даваць высокатаварную прадукцыю.

*

Вядома, усіх уласнікаў узнагароджаных сельскагаспадарчых будынкаў наведаць мы не змаглі, бо тых будынкаў аж дваццаць: 12 кароўнікаў і цялятнікаў, ды па чатыры аўчарні і хлеўні. Раскінуты яны па ўсім ваяводстве. Магу толькі паабяцаць, што паслядоўна апішам мы іх у „Ніве“, каб гаспадары самі маглі ацаніць іх прыдатнасць для сваёй гаспадаркі і скарыстаць з добрага прыкладу. А цяпер паедзем следам нашай экскурсіі.

*

Найперш спыніліся мы ў Генрыка Зачэнюка, які жыве на хутары за вёскай Ксенжына. Гэта зусім недалёка за Беластокам, у гміне Юхновец. Разам з сынам мае ён 13,5 гектараў зямлі, а ў тым ліку аж 6 га сенажацяў і пасбішчаў. І таму рашыў ён гадаваць пародзістых авечак.

— Гэта ў нашай сям'і, — гаворыць Зачэнюк, — традыцыйны заняітак. Аўчаром быў мой бацька, пасля гэтым займаўся я, а цяпер авечак разводзіць мой сын Войцех.

Так, толькі мяняліся маштабы гэтай гадоўлі. Цяпер авечая чарада Зачэнюкаў налічвае 80 штук матак і столькі ж ягнят, а мае быць прынамсі 100 старых авечак і не менш ягнят. Для іх патрэб у 1977 годзе Зачэнюкі пабудавалі спецыяльны будынак даўжынёю ў 25 метраў і шырынёю ў звыш 12 метраў. Ён нічым асаблівым не выдзяляецца. Мураваны, з белай цэглы. За аснову ўзялі яны тыповы праект, які ў каталогу праектаў гаспадарчага будаўніцтва ў Беластоцкім ваяводстве можна знайсці пад нумарам ВБ-4614/73/2. Яны аднак будавалі яго самі і пры гэтым шмат чаго дабавілі ад сябе, аб чым не падумалі аўтары праекта, якія жывуць у Кракаве і авечак, здаецца, бачылі толькі ў час водпуску ў гарах, або ў кіно. Зачэнюкі выканалі выгодны пад'езд для разгрузкі кармоў і — што найважнейшае — самі прыдумалі адмысловае абсталяванне для транспарту гэтых жа кармоў у засекі, дзе стаяць авечкі. Дзейнічае яно пры дапамозе электрычнага рухавіка і адпаведнай платформы.

*

Едзем далей. Прысеў я да маладой (і прыгожай) жанчыны, якая голасна крытыкавала аўчарню Зачэнюкаў.

— Што вы тут бачыце дрэннага? — пытаю.

— Яна зусім слаба механізаваная, — кажа Генрыка Бранішэўская з вёскі Банькі Залессе. — Паіць авечак трэба тут уручную з гідранта, а можна было б абсталяваць аўтаматычныя паілкі. З трактарам тут таксама не разгорнешся, каб выбраць гной. О, каб вы пабачылі нашу свінаферму! Праўда, пакуль што маем мы толькі 40 свінаматак, ад якіх разводзім парасят і самі пасля прадаўжаем іх адкорм, але ў нас усё поўнасцю механізавана. І вада, і корм, і ачыстка ад гною. Ва ўсім нас выручае тэхніка. І таму мы ўдваіх, я і муж, зусім лёгка спраўляемся з гэтай гадоўляй.

— А калі адключаць свет і замоўкне ваша тэхніка — што тады?

— Што ж, няшчасці здараюцца, але хто баіцца бяды, хай на печцы сядзіць.

Ад сябе дабаўлю, што Генрыка Бранішэўская разам з мужам зусім нядаўна пакінулі горад, дзе жылося ім вельмі добра. Але цяпер, кажуць, маюць яшчэ лепш.

*(Заканчэнне экскурсіі праз тыдзень)*

**Віктар Рудчык**

© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

## ШТО НОВАГА?

### „НІЧОГА РАДАСНАГА І НА ГЭТЫ РАЗ“

„Нам вельмі хацелася б хоць аднойчы парадаваць англічан аптымістычнымі прагнозамі. На жаль, аднак, і на гэты раз нічога радаснага паведаміць не можам“. Гэта словы з апошняга ў мінулым годзе штоквартальнага даклада аб стане і перспектывах развіцця эканомікі Вялікабрытаніі. Ён складзены групай вядомых эканамістаў, аб'яднаных у „Незалежны клуб прагназіравання“. На іх думку, у 1979 год англійская эканоміка ўступіла з тым жа цяжарам праблем, як і ў пачатку гэтага дзесяцігоддзя.

У прыватнасці, паводле ацэнак „Незалежнага клуба“, немінуча павелічэнне арміі беспрацоўных. Да канца года іх будзе амаль 1,7 мільёна чалавек, г.зн. каля 7 працэнтаў самадзейнага насельніцтва Вялікабрытаніі.

Не трэба чакаць і кардынальнага вырашэння праблемы інфляцыі, лічаць аўтары даклада. Па-ранейшаму будзе зніжацца жыццёвы ўзровень англічан.

Ужо ў першай палавіне гэтага года, адзначаецца таксама ў дакуменце, плацежны баланс, які некаторы час Вялікабрытаніі ўдавалася зводзіць са станоўчым сальда, будзе зведзены з дэфіцытам амаль у 200 мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, а годам пазней дэфіцыт дасягне мільярда фунтаў стэрлінгаў.

Каменціруючы вывады даклада, англійскі друк асаблівую ўвагу звяртае на тое, што прагнозы „Незалежнага клуба“ адносна эканамічнага развіцця краіны ў мінулым заўсёды збываліся.

### ДЗІЦЯЧАЯ СМЯРОТНАСЦЬ У ЕГІПЦЕ

Паводле паведамлення каірскай газеты „Аль-Ахрам“, у Егіпце выключна высокі ўзровень дзіцячай смяротнасці. Адна з галоўных прычын — захворванні, звязаныя з абязводжваннем арганізма. Ад дэгідратацыі штогод памірае каля 60 тысяч нованароджаных і больш чым 50 тысяч — ва ўзросце аднаго да пяці гадоў. Аднак, на думку газеты, больш глыбокія карэнні гэтай з'явы — дрэннае харчаванне і ўзровень жыцця ў цэлым, які прыкметна панізіўся.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**145 гадоў таму назад**

8.2.1834 нар. Д. Мендзялееў, рускі вучоны, стваральнік перыядычнай сістэмы элементаў. Пам. 2.2.1907.

**75 гадоў таму назад**

10.2.1904 Японія аб'явіла Расіі вайну. Ваенныя дзеянні пачала на дзень раней. Мір падпісан 5.9.1905.

**65 гадоў таму назад**

6.2.1914 нар. А. Куляшоў, беларускі паэт. Характэрныя стылістычныя рысы: узнёсласць, метафарычнасць, манументальнасць вобразаў, рытміка-інтанацыйнае багацце. Пам. 4.2.1978.

8.2.1914 нар. В. Таўлай, беларускі паэт, дзеяч рэвалюц. руху ў Зах. Беларусі. Адзін з арганізатараў Літаратурнага фронту сялянска-рабочых пісьменнікаў. Пам. 27.4.1947.



*Інтэрнат Ляснога тэхнікума.*

## СЕМДЗЕСЯТ ВОСЬМЫ Ў БЕЛАВЕЖЫ

Як прайшоў 1978 год у Белавежы? Што варта ў ім адзначыць, а пра што як найхутчэй забыць? На маю думку, гэты год быў годам спакойным, ды не настолькі, каб сказаць, што — сонным. Вялікіх здарэнняў, праўда, не меў — але ўсё-такі ў векавой Белавежы штосьці рухалася.

Працягвалася будаванне вялікай сучаснай стаянкі аўтамабіляў (мо ў 1979 г. перададуць яе ўжо ў карыстанне?), пачалі разбудоўваць рэстаран „Зуброўка“, які мае памясціць каля 600 чалавек. З Гайнаўкі ў Белавежу была праведзена пад зямлёю тэлефонная лінія. Ад вясны пачалася рэалізацыя плана турысцкага добраўпарадкавання мястэчка. У розных месцах паявілася шмат арыгінальных інфармацыйных дошак, паказальнікаў важнейшых аб'ектаў, лавак пад невялікімі прыстрэшкамі. Усе крамы атрымалі цікава выкананыя шыльды. Пад канец года на жыллёвых дамах былі павешаны новыя стылізаваныя драўляныя пліткі з чарговымі нумарамі.

У Палацовым парку, на гаці, палажаны асфальт. Асфальтаваную паверхню атрымала таксама вуліца Застава і пару меншых бакавых дарог. Цэлы турысцкі сезон, дзякуючы новаму мосціку праз раку і ставы, экскурсанты маглі карыстацца карацейшай і надта рамантычнай дарогай у турысцкі цэнтр. Восенню пачалі разбураць памяшканне старога музея. Крыху раней у другім канцы парку кранулася будова вельмі патрэбнай тут падземнай прыбіральні (нужніка). Рамонт экскурсанцкага належнага дома атрымаў у спадчыне 1979 год.

Змяніў памяшканне Дом дзіцяці. На час рамонту выхаванкі перайшлі ў памяшканне Цэнтра падрыхтоўкі леснікоў. Цэлы год новым інтэрнатам карысталіся вучні Ляснога тэхнікума. Інтэрнат быў перададзены ў карыстанне яшчэ ў снежні 1977 г.

Як штогод, адбылося ў Белавежы шмат навуковых канферэнцый, сімпозіумаў і семінараў. У лютым на IV пасяджэнні засядала тэхнічная секцыя Галоўнага савета навукі, вышэйшай школы і тэхнікі. У маі вучоныя і леснікі спаткаліся на агульнапольскай канферэнцыі, прысвечанай „Стану і развіццю функцый Белавежскай пушчы“. У чэрвені працягвалася навукова-папулярная канферэнцыя на тэму ролі кіраўніка на гандлёвым прадпрыемстве. Ліпень жа прынёс канферэнцыю ў справе арганізацыйна-тэхнічных і эканамічных фактараў у рацыянальным выкарыстоўванні драўніны ў дрэваапрацоўчай прамысловасці. XXXVI з'езд Польскага энтамалагічнага таварыства адбыўся ў верасні. У кастрычніку секцыя перынаталогіі Польскага гінекалагічнага таварыства наладзіла навуковы сімпозіум, чыгуначнікі ж — канферэнцыю на тэму павышэння прадукцыйнасці і якасці працы ў рамонтных установах чыгуначнага рухомага саставу, а навуковы савет ГП Таварыства агульных ведаў (ТВП) — пасяджэнне, прысвечанае нацыянальнай культуры ў перыяд 60-гадовага існавання Польшчы. Лістапад запісаў на свой рахунак V сімпозіум хранабіялогіі і два семінары — адзін аб культуры ў гміне, другі аб кароткатэрміновых формах добраахвотнасці працы ў розных дзяржавах.

З цікавейшых мерапрыемстваў, якія адбыліся ў мястэчку ў 1978 г., варта ўспомніць хаця б пра XIII Белавежскі мастацкі пленер, пра ўрачыстае прывітанне лета ў Старой Белавежы, наладжанае Польскім радыё, ці пра турысцкі рэйд, арганізаваны белавежскім і гайнаўскім аддзеламі ПТТК. У чэрвені працягваўся таксама гандлёвы кірмаш „Лета-78“. Апрача таго, пры розных нагодах адбыліся выстаўкі кніжак аб Белавежскай пушчы, плакатаў на прыродазнаўчую тэму, транспартнага абсталявання, дываноў і тканінаў, польскіх манетаў і банкнотаў.

А што ў турызме? Белавежу ў 1978 г. наведала каля 115 тыс. турыстаў і экскурсантаў, г.зн. на 15 тыс. менш, чым у рэкордным 1976 годзе. Менш было таксама замежных турыстаў, толькі 5,5 тыс. з 44 дзяржаў — на 0,5 тыс. менш, чым у рэкордным 1977 г. Паніжэнне ліку наведваючых было звязана з дрэнным, дажджлівым надвор'ем у цэлым турысцкім сезоне. Многія экскурсіі адмаўляліся ад прыезду ў сувязі з закрыццём на некалькі тыдняў паказнога запаведніка зуброў і тарпанападобных коней. Да найахвотней наведваемых аб'ектаў традыцыйна ўжо належаў Прыродазнаўчы музей БНП — 98.372 наведвальнікі, які летам быў адчынены на гадзіну даўжэй. Навіна сезону — гэта ўвядзенне спецыяльных пастаянных дэманстрацый фільмаў для турыстаў на прыродазнаўчыя і белавежскую тэмы ў мясцовым кіно „Зубр“.

З важнейшых гасцей Белавежа прымала ў мінулым годзе, між іншым, архіепіскапа Афінаў і мітрапаліта ўсёй Элады — Серафіма, старшыню грэчаскай федэрацыі „Ратуйма дзяцей“, кавалера Ордэна усмешкі — паню Нікі Гаўляндрыс, міністра аўтамабільнага транспарту і дарог Літоўскай ССР — Івана Чэрнікава.

А што прынясе бягучы год? Пажывем, будзем ведаць.

**Пётр Байко**
Фота аўтара

### ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „Ніве“

**Падвойны юбілей • Пад залатой вехай • У інтэрнаце персанальных пенсіянераў • Салдат рэвалюцыі • Бранск зімою • Максім Нурэцкі корпаецца ў мінулым, а дзядзька Квас бічуе жанчын • Весткі з Люрбліна, Супраслі, Васількова, Галадоў, Нарвы, Чэхаў Арлянскіх, Бельска, Дубіч Царкоўных • Калі сніцца балёвая сукенка • Доктар Знахарук • Песня „Ермак“**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota 3 II** — 6.00 TTR. J. pol. Romantyzm w Europie. 6.30 Mat. Kąty. 7.00 Hod. zwierz. Środowisko a zdrowotność i produkcyjność zwierząt. 7.30 Upr. rośl. Znacz. gosp. roślin motylk. drobnonasien., biologia, wymagania gleb., klimat., stanowisko pod uprawę. 9.55 Pr. dnia. 10.00 Wojsk. pr. hist. 10.30 Orzeł — fiński film przyr. 10.55 Góry, dżungle, pustynie. 11.25 Drogi Kirgizji. 12.20 Poranek z kulturą. 13.20 Radzimy rolnikom. 13.30 Teleferie: Spacer — pol. film fab. 14.00 Studio 2. — 19.00 Bolek i Lolek na Dzikim Zachodzie. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik.

**Niedziela 4 II** — 6.00 TTR. Hod. zwierz. 6.55 Upr. rośl. 7.25 Nasze spotk. 7.45 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek TDC. 10.20 Antena. 10.45 Mississipi — odc. fr. ser. „Wielkie rzeki świata". 11.45 Dziennik. 12.00 Rolnicze rozmowy. 12.30 Poranek symf. 13.35 Z kamerą wśród zwierz. 14.05 Los. Toto-Lot. 14.20 Zgadnij kim jestem — teletur. 15.05 Koncert życzeń. 15.40 Curro Jimenez — odc. hiszp. ser. 16.40 Tele-echo. 17.40 Na estradach świata. 18.15 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie — pokazy mistrzów. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Wysoki komin — odc. VI ser. „Ślad na ziemi". 21.50—22.45 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie — pokazy mistrzów.

**Poniedziałek 5 II** — 12.45 TTR. Upr. rośl. 13.25 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (mat.). 16.00 Dziennik. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Zwierzyniec. 17.20 10 minut — teletur. 17.30 Lisa — film fab. NRD. 20.15 Teatr TV Julian Tuwim, wg M. Gogola „Płaszcz". 22.05 Jak? pr. publ. 22.45—23.00 Dziennik.

**Wtorek 6 II** — 6.00 TTR. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 13.25 Mat. 14.00 Mech. rol. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Klub seniora. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Studio Mł. 17.25 Stawka. 17.50 Sonda. 18.15 Życie hien — ser. przyr. 18.50 Radzimy rolnikom. 20.15 Pogoda dla bogaczy — odc. ser. 21.10 Świadkowie. 21.30 Camerata. 22.00 Dziennik. 22.15—22.55 Kształt słowa.

**Środa 7 II** — 6.00 TTR. Mat. 6.30 Mech. rol. 12.45 Chem. 13.25 Wskaz. met. 14.30 Produkcja owczarska. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (Naucz. pocz.). 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja! 16.50 Entliczek-słowniczek. 17.15 Los. małego lot. 17.25 Skarbiec. 17.55 Między nami jaskiniowcami — ser. 18.20 Sport. 20.15 Pustelnia parmeńska — dramat fr. 23.05—23.20 Dziennik.

**Czwartek 8 II** — 6.00 TTR. Chem. 6.30. Wskaz. met. 13.25 J. pol. 14.00 Fiz. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Dezycje piętnostolatków. 16.00 Dziennik. 16.10 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja! 16.50 Czwartek TDC. 17.20 Patrol. 18.50 Radzimy rolnikom. 20.15 Teatr Sensacji. Joanna Chmielewska: Kim jesteś kochanie?. 21.35 Pegaz. 22.20 Dziennik. 22.35—22.55 Szuflada.

**Piątek 9 II** — 6.00 TTR. J. pol. 6.30 Fiz. 12.45 J. pol. 13.25 Mat. 15.15 Red. szk. zap. 15.25 Pr. dnia. 15.30 NURT (Psych.). 16.00 Obiektyw. 16.30 Dzień dobry, tu telewizja. 16.50 Piątek z Pankracym. 17.15 W kręgu rodziny. 17.45 Dom i my. 18.00 Magazyn motor. 18.30 Jana z Koszutaru — odc. ser. jug. 20.15 Miłość i pożar — kom. radz. 21.25 Koncert WOSPRiTV w Katowicach. 22.00 Dziennik. 22.15—22.45 Świat, ludzie, idee.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 2 II** — 7.35 Piosenki dalekie i bliskie. 8.30 Film fab. 13.50 Spektakl teatru lalek. 19.35 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie.

**Sobota 3 II** — 13.00 Film dla dzieci. 14.35 Nie do wiary. 15.45 Filmy anim. 17.00 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 19.35 Pr. estrad. 20.2[illegible] Mistrz. świata w łyżwiarstwie.

**Niedziela 4 II** — 9.00 Film fab. 11.30 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. 13.45 Film fab. 14.30 Klub film. 15.30 Filmy anim. 16.00 Panorama międzynar. 17.00 i 19.35 Mistrz. Europy w j. fig. na lodzie. Jazda pokazowa.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

Беларуская радыёперадача: **субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Inny mężczyzna, inna szansa — fr. 6—7. Wyspa skazańców — meks. 8—9. Pogrzeb świerszcza — pol. 10—11.

**Bielsk Podl.** Szkolny walc — radz. 5—6. O jeden most za daleko — ang. 7—10. Asy przestworza — ang. 11.

**Czeremcha** Zemsta wilka morskiego — radz. 6—7. Jadzia — pol. 10—11.

**Czyże** Beethoven — NRD 10—11.

**Gródek** Julka, Julia, Juleczka — NRD 10—11.

**Hajnówka** Melodie białych nocy — radz. 5. Dziewczyna z reklamy — USA 6—7. Rafferty i dziewczyny — USA 8—9. Pejzaż horyzontalny — pol. 10—11.

**Michałowo** Odpowiedź zna tylko wiatr — RFN 6—7. Dzień szarańczy — USA 8—9. Człowiek z M-3 — pol. 10—11.

**Milejczyce** Nagonka — jug. Czas miłości i nadziei — czes. 7—11.

**Narew** Lato z kowbojem — czes. W gwiezdnym pyle — NRD 7—11.

**Narewka** Dom pod czerwoną latarnią — węg. Pojedynek — ang. 7—11.

**Nurzec** Ostatni skok gangu Olsena — duń. 6—7. Mareczku podaj mi pióro — czes. 8—9. Hallo Szpicbródka — pol. 10—11.

**Orla** Rozumiemy się bez słów — czes. Zdrajczyni — radz. 7—11.

**Rajsk** Królowa pszczół — pol. Ofiara namiętności — hiszp. 7—11.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 28 zł. 80 gr. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 148. Nakład 7.900 egz. S-4

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

* ✲ *

*і зноў,*
*як вперуч...*
*туман на лугах,*
*поле дыхайе вольнымі грудьмі,*
*тоскуючы,*
*ждэ*
*прылёту*
*журавлюв.*

* ✲ *

*Махнуло нэбо*
*сынім простором*
*і жаворонок*
*зазвонів потоком*
*пэрэлівных*
*пісэнь.*

* ✲ *

*Заколыхалісь хвалі*
*Біловежського бору,*
*Зэлёны травінкі*
*побіеглі*
*по полянах.*
*У гущчарові,*
*прымкнувшы очы,*
*дрымле зубрыннэ стадо,*
*над йім*
*вэсело,*
*бы кловны,*
*скачут*
*у ліхому*
*танцёвы*
*комары.*

**Іван Кірызюк**

* ✲ *

Зямля і я
яна з вятрамі
з морам
з сонцам
я толькі з вершам
яна — адвечнасць
я — імгненне
але як гнуся перад ёю
калі гатоў стаць на калені
дык не магу што ў ёй магутнасць
тады калі ва мне бяссільнасць
я кланяюся ёй у пояс
таму што вырасціла пушчу
і рэчцы шлях дала ў даліне
дзе сустракаюся з дзяўчынай

**Алесь Барскі**



### МАРАФОН

*Закрыўшы вочы, чую мужны*
*І сэрцаў стук, і тупат ног,*
*Дыханне, нібы мех у кузні,*
*І звонкі кліч, і гучны рог.*

*І вёскі стрэл з персідскіх лукаў,*
*І бег фалангі нібы гром,*
*І звон жалеза, енкі ў муках*
*І раптам крык з усіх старон:*

*„Разбіты вораг! Перамога!“*
*Бяжыць з навінай Філіпід*
*У цэнтр Афін. Дрыжыць дарога,*
*Дрыжыць знаёмы краявід.*

*Пульс сэрца стукае, як молат,*
*Пот струменьнямі цячэ.*
*Усё цямнее, ў лёгкіх голад,*
*А ён бяжыць: яшчэ! яшчэ!*

*Прынёс вясёлую навіну,*
*І выдаў свой апошні стогн —*
*Легенду па сабе пакінуў*
*І алімпійскі марафон.*

*А колькі ў нас пасланцаў бравых*
*Жыццё айчыне аддало!*
*І свет не знае аб іх нават,*
*І мы забылі іх даўно.*

**Д. Шатыловіч**

* ✲ *

*Прарваўшы сваю дарогу*
*як павуціння*
*Уваходзіш ты ў чырвоную ноч*
*каралеўства мяккіх камедыянтаў*
*Без стогну хварэючых*
*ад уласнай сілы*
*Сілы кроплі якой хопіць*
*на змену пагоды*
*на прароцтва ў роднай хаце*
*на прыемны ўкол што не ратуе ад эпідэміі*
*Дзеці блазнаў — талент*
*Мужнее дасканалы круг*
*Ніхто не нарушыць тут*
*вялікага снедання*
*Тут дзень як дзень*
*чырвоная ноч блазнаў...*

**Надзея Артымовіч**

## ПРАМІНАННЕ

*Памяці Бацькі прысвячаю*

Кволае дрэўца лясное бярозкі
Калісьці прынёс шустры хлопец у вёску.
Бярозка бярозаю стала ля тына,
А з шустрага хлопца — дарослы мужчына.

Гадоў не адзін прамінула дзесятак.
Бяроза шуміць сваёй кронай багата.
З мужчыны зрабіўся нядужы старэча,
Аб ствол апіраў спрацаваныя плечы.

Ужо пад бярозаю месца пустое.
Мужчына з магільнай зрадніўся зямлёю.
Сумуе па ім прыгажуня-бяроза,
Плывуць па лісточках расінаачкі-слёзы.

**Віктар Швед**

* ✲ *

Так ціха.
Зноў дзяцінства,
дом...
працебаныя ветрамі
хаціны
мыюцца ў туманах.
Зоры жывуць
і клічуць...
Так ціха.
Зіхаціць месяц.
Глядзіць
у цёмныя вокны
дзяцінства.
Смутак зор —
Малочны Шлях,
Красун Арыён...
Так ціха.
Цяжар перажытых
дзён
раскідваю
ў соњныя вокны
і бягу
у сукеначцы белай
па гарачым пяску
цалаваць
воды Нарвы.

**Вераніка Леанюк**



* ✲ *

перада мною стаў велікан
і сказаў
хадзі за мною
на зорку ілюзіі
праўду я цябе

хацеў я ўжо ісці
але ты хваціла мяне за руку

і ведаю ўжо ніколі
не прыйдзе ён да мяне.

**Іштван Дабі**

### БЕСПАВАРОТНАСЦЬ

першыя жоўтапёрыя лісткі
прыляцеўшы з краіны восені
птушкамі сядаюць пад дрэвамі

сляза з неба
падае на вакно
— час задумы над...

мінуты перапльваюць
за вечны бераг памяці
крычучы крыжам жураўлёў.

**Ірэна Баравік**

* ✲ *

маі
любімыя —
— далёкія

не тузайце
маіх вачэй

я ж
салодка сплю
чаму
хочаце разбудзіць?

урвацца
ў мой
толькі мой
дзіцячы сон?

даю вам
сваё цела
на з'ядзенне
толькі
не кранайце
майго сну

гэта адно
што
заву Маім

**„Вавy“**

* ✲ *

*Адчыняю малую фортку сэрца*
*І думкай, што дарогай яснай ўецца*
*у гару,*
*пераношуся ў сад,*
*у якім з дрэў, набраклых цішынёй і часам,*
*збіваю плады успамінаў і надзеі.*
*З кветак, што палаюць рознаколерна,*
*як матылёк недаўгавечны,*
*співаю адурманьваючыя сокі,*
*каб магчы, як яны, палаць*
*кінутай на папер амярцвелай зямлі.*

**Варвара Квапіш**



### МАЛІТВА ДА ПАЭЗІІ

Раскажы мне такую казку,
Аб якой не пісалі ў кніжках,
навучы мяне гэтай мовы,
на якой гутарыць цішыня.

Пакажы мне сёмае неба,
недаступнае ні людзям, ні багам,
будзь мне мёдам і чорным хлебам
і ў жыцці будзь няспынная дарогай.

Пакажы мне грэшнага д'ябла,
пакажы мне святую мадонну,
пакажы мне смутак і радасць
і шумлівыя збожжам загоны.

Пакажы мне такое неба,
што ўсё зорнае ў поўначы і ў поўдзень,
пакажы лабірынт мне сцежак,
па якіх нага мая пойдзе.

**Міша Андрасюк**

* ✲ *

Дзе роднай мовы мілае
Гучанне,
Дзе родных ніў і ветру
Ціхі гоман,
Дзе адгукаецца дзяцінства
Прошлы час,
Дзе мацярынскай ласкі
Першы дотык, —
Туды ўсе думкі марамі
Ідуць.
Дзе вечарам расою
Луг абмыўся,
Дзе лесу гоман прыклікаў
Блукаць,
Дзе птушкі ў стрэхах гнёзды
Ўюць,
Дзе радасць і бацькоўшчыны
Подых цёплы, —
Туды вярнуцца б, туды б з дарог
жыцця
Прыйсці.

**Юрка Харкевіч**

Яны сустрэліся настолькі нечакана, што адзін з іх у першую хвілю не мог успомніць імя другога. Даўно не бачыліся.

— Вось дык сустрэча, ай-яй-яй!.. Скажы ты, што за сустрэча!? Я вось ужо ад вясны хацеў пабачыць цябе, нават званіў разоў колькі па тэлефоне; думаў ліст пісаць. Уяві вось, братка: іду я зараз па тратуары ды згадваю сабе, што неўзабаве вынырне з вулічнага натоўпу задуменная твая фізіяномія. І так вось яно здарылася! Дзякуй вялікае лёсу за тое, што звёў нас нарэшце!!!

— Ну, добры дзень, Віця.

— Я, Толік, быў вось па-суседску з тваім домам. Ведаеш, мой шэф за-

## ПЕРАДРАЗМОЎЕ

піўся і я праводзіў яго вось дамоў. Калі б ён, апантаны, не дапусціўся таго, дык не было б мяне тут...

— І не сустрэліся б мы, Віця.

— Вось як бывае, Толік. Няхай шэфіска не даў бы па газе з выпадку халернага візіту інспектара галоўнай управы...

— Той інспектар задумаў інспекцыю — у надзеі пахмяліцца?

— Ах, Толічак, роля алкаголю ў функцыянаванні нашай правінцыі неверагодна значная! Вось наконт інспектара ты, здаецца, маеш рацыю... Няйначай гэта ён з'яўляецца наладчыкам тваёй са мною сустрэчкі, той высокапастаўленец. Ясная справа, па чыстай выпадковасці, калі наогул нешта такое існуе ў жыцці.

— Падзякуем пану інспектару?

— Каму? Што ты гаворыш?! Інспектар, падла, звалокся да нас па графіку размеркавання камандзіровак. Як бачыш, як і я зараз бачу, наша сустрэча, так сказаць, была запланавана па ўсёй форме і нават прадвызначана ёй дата. Толькі мы пра нішто не ведалі, матылі першабытныя, пазбаўленыя смаку ўплываць на жыццёвую мітусню. Такая ўжо доля ў нас: бегаць не так, як жадалася б. але так, як гэта магчыма...

— Гм...

— Табе нешта няяснае?

— Не. Чаго ж, усё зразумелае. Ты як урадпік, як службовы чалавек, знаходзішся ў становішчы паводле наступнага ўзору перспектывы, які бытуе ў прымаўцы: „Служы пану верне, а ён табе перне“.

— Не зусім вось я разумею цябе...

— Нічога. Гэта тэма на другую па чарзе нашу сустрэчу. А цяпер кажы, што гэта такое не дае табе спакойна жыць без мяне?

— Дык вось, ага, што я гэта хацеў сказаць табе...

Яны загаварылі аб справе.

**С. Яновіч**

 

# ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## НАЙЛЕПШЫЯ Ў КОНКУРСЕ

Нядаўна былі падведзены вынікі конкурсу на найлепшы цэнтр турыстычнай інфармацыі ў Беластоцкім ваяводстве. У мінулым годзе ўдзельнічала ў ім большая частка ўсіх цэнтраў „іт“.

Першае месца заняў цэнтр турыстычнай інфармацыі ў бюро ПТТК у Беластоку па вул. Ліповай 18, другое месца — цэнтр „іт“ у Палацовым парку ў Белавежы і трэцяе — пункт „іт“ у Бельску з сядзібай у ратушы.

## РЭСТАРАНЫ ПАД ЗЯЛЁНАЙ ШЫЛЬДАЙ

У мінулым годзе перададзена ў карыстанне шэсць новых ГС-аўскіх рэстаранаў на 800 месц. Пабудаваны яны ў Сідры, Карыціне, Вышках, Ясвілах і Суражы. У канцы снежня 1978 года пачаў дзейнічаць рэстаран на 150 месц у Нараўцы.

Сёлета будуць перададзены ў эксплуатацыю рэстараны ў Сямяцічах, Драгічыне і Янаве. Зноў — пасля грунтоўнай мадэрнізацыі — прыме гасцей рэстаран „Зуброўка“ ў Белавежы.

## МАДЭРНІЗУЕЦЦА

На мэблевым прадпрыемстве ў Супраслі асабліва цесна было ў лакіровачным цэху. Таму ў лістападзе 1977 года пачалася разбудова гэтага цэха. Пасля яе заканчэння прадпрыемству прыбудзе каля 300 квадратных метраў плошчы. Будзе спрыяць гэта не толькі павелічэнню прадукцыі. Аблітыя паліестрам дэталі прадукаванай мэблі будуць тут набываць бляск.

Заканчэнне разбудовы лакіровачнага цэха прадбачваецца ў чэрвені бягучага года. Зараз ужо гатовы сцены, але яшчэ без даху.

Уласная будаўніча-рамонтная брыгада разбудоўвае склад плітаў. Тут таксама гатовыя сцены. Два гады таму назад быў пабудаваны склад алейнай фарбы і лаку.

## СПУЛДЗЕЛЬЧАЯ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

Жывёлагадоўля — гэта найважнейшая галіна сельскай гаспадаркі. Многа ўвагі ўдзяляе Спулдзельня сельскагаспадарчых гурткоў у Заблудаве. Яна дабілася добрых вынікаў іменна ў жывёлагадоўлі. Адкормлівае яна па 920 штук свіней у сваіх хлеўнях і ў летні перыяд пад дашкамі. Асноўная база жывёлаводчай гаспадаркі знаходзіцца ў вёсцы Камёнка.

СКР вядзе кааперацыю з індывідуальнымі сялянамі з Заблудава, Альшанкі, Рафалоўкі і іншых вёсак. У мінулым годзе сяляне адкармілі і прадалі СКР 1 654 штукі свіней. Спулдзельня забяспечыла іх бульбай, якую вырошчвае на сваіх зямельных угоддзях (у мінулым годзе сабрала яе 380 тон), і іншымі кармамі.

СКР вядзе таксама гадоўлю цялят у Пасынках, дзе купіла будынкі ад тамашняга земляроба і ў кааперацыі з мясцовымі гаспадарамі. Мае іх 80 штук.

У мінулым годзе сельскагаспадарчы кааператыў прадаў дзяржаве 208 тон мяса. Ён намераны развіваць жывёлагадоўлю. З гэтай мэтай у Пасынках пабудуе вялікі цялятнік і будзе мадэрнізаваць карсўнік, у якім зараз ёсць 50 цялят.

(яц)

# ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

## Снег скрыпіць, конь бяжыць...

Учора мы гуртам расчышчалі дарогу ў сваю краму, у злеўню малака і да аўтобуснага прыпынка. Намахаўся я шуфляй. Што аднак было рабіць, калі завеяла, занесла нас снегам, што не прайсці ды не праехаць.

У суботу перад калядамі ледзь я зваlокся з пасцелі. Палашка паспела ўжо распаліць у печы і парнік для свіней наставіць, а я ўсё яшчэ хаваўся пад пярынай і думаў, што трэба ўставаць, бо работы вельмі многа... То ж адной сечкі аж на тры дні для дзесяці штук дабытку нарэзаць трэба... І яшчэ думаў, ці ў гэтым годзе прыедуць мае дзеці і ўнукі на каляды, ці гэтая снежная стыхія затрымае іх у гарадскіх кватэрах? І Палашка таксама пра гэта думала, бо вярнуўшыся з панадворка з вядром вады, зараз накінулася на мяне: „Уставай, — кажа, — снедаць будзем і ўпраўляцца хутчэй трэба, а то дзеці зараз прыедуць і на прыпынак пад'ехаць трэба...“ „Так, — гавару ёй, — хутчэй бяжы, а то не паспееш! Ты хіба ў тэлевізар не глядзела? Не бачыш, што на свеце чаўпецца! Аўтобусы не ходзяць, цягнікі адклікалі, аўтамабілі замарозіла.“

— Дык праўду кажа старая Аўдосся, што канец свету набліжаецца, — нечакана заявіла мая жонка.

Хацеў я адрэзаць ёй, што яна зусім дурная баба і хай у палітыку свайго носа не суне, але падумаў, што ў святочны дзень не выпадае сварыцца, а да таго ж, калі так падумаць... ці адну падобную зіму давялося нам перажыць? У навагоднюю ноч адключылі ў нас святло, да раніцы замарозіла водаправодныя трубы і свінні на ферме пачалі мерзнуць ва ўласнай нечысці. На досвітку прымчаўся да мяне дырэктар і просіць, каб я сам з канём і возам да іх прыехаў, ды і іншых гаспадароў яшчэ папрасіў. „Дапамажыце! — гаворыць. — А то ні аднаго трактара не можам запусціць. Акумулятары прамерзлі.“

„А дзе ж вы, гультаі, раней былі? — думаю. — Чаму тэхнікі як след не забяспечылі? Ці не ведалі, што зіма ў нас здараецца?“

...І цяпер таксама давялося зяця, таго што ў Беластоку жыве, разам з яго сямейкаю і „малюхам“ ад шашы канём цягнуць. Відовішча было цудачнае. Я вярхом на кабыле, а за мной — на арчыку гэты малы „фіят“ і цэлая зяцева сямейка. Унучак высунуў галаву з акна і крычыць: „Дзедку, уключы трэці ход, а то мы ўжо замерзлі, хутчэй бы мне да бабулі!“

Палашка сапраўды ўцешылася, быццам бы памаладзела на цэлых дзесяць гадоў. „Грэйцеся! — шчабятала. — Ой, добра хаця вы прыехалі! А то думала, што нам старым адным прыдзецца гэтыя святы праводзіць“.

Заселі вечарам за стол, дзе пахла свежым сенам і грыбовым баршчом. Перакусілі, выпілі, і тады я гавару: „Расказвайце, як там цяпер у вас у горадзе!“

— Пра што тут расказваць! — адмахнуўся зяць. — Дома холадна, бо няма сілы прымусіць загадчыка пасялковай адміністрацыі, каб правёў рамонт абагравальнага абсталявання, а на прадпрыемстве толькі цяпер апамяталіся, што вугаль ім патрэбны...

— Кіньце гэта! — умяшалася Палашка. — Бо хто бачыў, каб за калядным сталом наракані разводзіць.

Супольна рашылі паехаць у царкву на святочнае спяванне.

І вось імчымся праз заснежанае поле, конь бяжыць, снег скрыпіць, а званочак пяе і радасна звоніць. Неба зорыстае, месяц ясны. Як радасна, як лёгка і цудоўна!

— І дзе ж тут зімовая стыхія? — не вытрымаў я.

— Заўтра ў тэлевізіі пакажуць, — адказаў зяць.

**Максім Нурэцкі**

# СЯМЕЙНАЕ СВЯТА

*Скажу, бывала, „еду да бацькоў“ —*
*І родзіцца ў душы настрой прыўзняты,*
*Што вось убачу іх, старых, ізноў*
*І прывітаю на парозе хаты.*

*Віктар Швед*

— На Лукаша паедзем да бацькоў, — звярнулася Ліда да свайго мужа.

— Абавязкова паедзем, — адказаў ён і далей песціў сваю дачку Івонку. Калі малая разабралася, што ідзе гутарка аб паездцы ў Тыневічы, пачала падскакваць ад радасці, падспеўваючы: — Паедзем да бабулі, паедзем да дзядулі, там так добра.

Ліда са сваім мужам даўно жыве ў Беластоку. Маюць яны двое дзяцей, працуюць на адказных пасадах, заняты прафесіянальнымі і выхаваўчымі справамі, і таму рэдка наведваюць сваіх бацькоў. Праўда, на каляды і вялікдзень стараюцца яны наведаць бацькоў мужа ў Катлоўцы. Але ўжо на Лукаша едуць да бацькоў Ліды, да Леўчукаў у Тыневічы.

Родная сястра Ліды, Ірэна, жыве і працуе ў Гайнаўцы. Мае мужа і дзяцей. Тут жа ў Гайнаўцы жыве і працуе трэцяя сястра Марыся. Яна яшчэ незамужняя. І яны таксама, калі як калі, але на Лукаша заўсёды прыязджаюць да бацькоў. Хочацца пабыць у роднай хаце, у роднай вёсцы, спаткацца з аднавяскоўцамі і з тымі, якія выехалі з вёскі, наведаць свой родны кут.

Чацвертая дачка Леўчукаў у вёсцы Свірыды. Завуць яе Валя. І яна не забывае аб 31 кастрычніку, заўсёды прыязджае ў Тыневічы.

Гэты дзень у Леўчукаў становіцца, такім чынам, сямейным святам. І калі наступіць той доўгачаканы дзень, маці і бацька не ведаюць, як вітаць сваіх унукаў, зяцёў і дочак.

— А мае вы залаценькія ўнучаняты, якія вы ўжо вялікія! Дзякую вам, зяцькі, што і вы не забываеце. Толькі наш Валодзя ніколі нас ужо не наведае, — скажа маці сумным голасам і жаласліва расплачацца. І ў дочак выступяць слёзы, нешта сцісне за горла на ўспамін аб родным брату, які меў хворае сэрца і, закончыўшы прафесіянальную школу ў Міхалове, паўтара года таму назад, будучы на канікулах, памёр нечакана.

У Леўчукаў цяпер сямёра дзяцей. І так не хапае Валодзі, які прыгожа іграў і спяваў, браў удзел у песенных школьных конкурсах. Аб ім многа чаго ў хаце напамінае: і гітара, і ўсё тое, што зроблена яго рукамі.



*Аляксандр Леўчук.*

У Тыневічах у гэты дзень свенцяць магілы. Вярнуўшыся з могілак дамоў, маці з дочкамі рыхтуюць стол, урачысты сямейны абед, а зяці ходзяць тым часам па панадворку і дзіву даюцца, што іх цесць, пачынаючы ад нуля свой жыццёвы шлях, мае цяпер такія будынкі і вялікі, мураваны, з сучасным абсталяваннем дом. Сам ён рабіў бетонныя стаўбы для клуні, сам рабіў пустакі на хлявы і выканаў многа рамесных работ падчас будовы дома. Ва ўсіх працах многа памагалі і жонка, і дзеці. Леўчукі працавітыя, як мурашкі. Выхоўваючы васьмёра дзяцей, дакупляючы зямлю, змаглі яны яшчэ будавацца, у той час, калі многія, падобныя ім сяляне, нічога не зрабілі і нічога не могуць пакінуць дзецям.

Свята, тосты... Часам, перахіліўшы чарку, Аляксандр Леўчук уздыхне глыбока і ўспомніць сваё дзяцінства, сваю маладосць. Не падобны яны на дзяцінства і маладосць цяперашняга пакалення. Бацька яго доўгія гады сядзеў у турмах за палітыку, так што сынок гадаваўся без яго паўсіратою. Калі было яму 15 год, у 1941 годзе забралі яго на прымусовыя работы ў Нямеччыну. Амаль чатыры гады паднявольнай працы, вызваленне Савецкай Арміяй, змаганне з ворагам у яе радах. Смерць заглядала ў вочы. У 1947 годзе шчасліва вярнуўся дамоў і ў наступным годзе ажаніўся з Оляй — дзяўчынай са сваёй вёскі, збудаваў такую-сякую хату і распачаў сямейнае, самастойнае жыццё. Было яно нялёгкае, працавітае. Аб гэтым помняць дзеці. Падчас абеда і дочкі і сыны прыпамінаюць тыя ці іншыя эпізоды з дзяцінства. І ўспаміны гэтыя заўсёды звязаны з бацькоўскай ласкаю, сардэчнасцю, адданасцю. І таму так хочацца сюды заглянуць і так ахвотна едуць усе на Лукаша, каб пабачыцца з бацькамі, братамі і сёстрамі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

УСПАМІНЫ (5)

# Ніна Мушынская
# Заручаныя з песняй

## ПРЫЗНАННЕ САПЕРНІКА

Дзейнасць нашага калектыву не абмяжоўвалася выступленнямі ў Гарадку. Пачалі нас запрашаць у іншыя гміны і нават у Беласток. У чэрвені нас проста разрывалі. Не было ніводнай свабоднай нядзелі. Любілі нас і нашы песні. Якія былі гэтыя песні? Вылаўлівала я іх у старых вясковых бабуляў. Спявалі іх на вяселлях і вечарынах. З іх я складала праграму, звязвала словам ці вершам. У гэтай працы не шкадавала ні часу, ні сілаў. Не менш ахвотна і аддана працавалі і сяброўкі. Пакідалі малых дзяцей і мужаў, якія, як мяхі кавальскія, саплі са злосці, што жонка зрабілася вялікай артысткай. Большасць з нас гэта былі замужнія гаспадыні.

У сувязі з 10-годдзем Народнай Польшчы, 22 ліпеня ў Беластоку арганізавалася вялікае ваяводскае свята песні і танца — „Свята маладосці“. У гэтым свяце мелі ўдзельнічаць і мы. Крыху смешнае, праўда? Старыя бабы ў свяце маладосці. Каб навучыць нас песням, якія абавязвалі на свяце маладосці, прыязджаў да нас некалькі разоў музычны інструктар, а ў палове ліпеня прыехаў прафесар Стэфан Саберайскі. Праслухаў нас і сказаў: — Добра Гарадок спявае.

Семнаццатага ліпеня ў будынку медыцынскай акадэміі пачынаўся кандыцыйны лагер. Ніводная з нас ніколі не ўдзельнічала ў чымсьці падобным. Нас вельмі цікавіла, як гэта будзе выглядаць.

Збор калектываў з усяго ваяводства быў вызначаны на 10 гадзіну ў вялікай актавай зале. Упершыню ўласнымі вачыма ўбачылі мы былы палац Браніцкіх, цяперашнюю медыцынскую акадэмію, дзе нашыя дзеці вучацца на будучых лекараў.

Тут пазнаёміліся мы з людзьмі з розных паветаў і з рознымі калектывамі. Такога, як наш не было. Адрозніваўся ён малалікасцю, узростам і складам (адны жанчыны). Кіраўнік калектыву з Боцек, праходзячы каля нас, не вытрымаў:

— Што гэта за калектыў? Адны жанчыны? І колькі? Раз, два, тры... Што вы можаце паказаць?

Хутка ён пераканаўся, што можам. 21 ліпеня сабраныя з усяго ваяводства калектывы накіравалі ў розныя мясцовасці і прадпрыемствы абслужваць мастацкай часткай акадэміі. Трэба ж здарыцца, нас з Боцькамі прызначылі да вайсковай часці КБВ. Урачыстасць мелася адбыцца на палігоне, і мы туды ехалі адкрытай машынай. Па дарозе, а як жа, клапатлівы кіраўнік з Боцькаў зноў нас палічыў. Праўду кажучы, не было чаго лічыць. Частка нашых жанчын напярэдадні выехала ў Гарадок, пакупаць дзяцей і паглядзець, што дома дзеецца. Атрымалі на гэта дазвол. Ехала нас 11 жанчын. Боцькаўскі калектыў налічваў 43 асобы. Быў мешаны, чатырохгалосы, з музычнымі інструментамі. Боцькаўскі кіраўнік казаў мне:

— Вы нашых песняў спяваць не будзеце. У нашай праграме 10 песняў. Выраўшаем так: мы праспяваем 5 песняў, зробім перапынак. Тады ўключыцеся вы. Мы закончым праграму апошнімі песнямі.

Аж у пяткі закалола. Па ўсім было відаць, што ён надалей недаацэньвае нас. Добра, што нашай гутаркі не чулі сяброўкі, а то яшчэ, чаго добрага, уцяклі б. Я была вельмі перакорлівай. Максімальна сканцэнтравалася. Выграбла з памяці ўсё, што мела найлепшае ў праграме. Прадумала, што скажу сабраным салдатам. Усё было гатова: праграма дамоўлена. Канферанс'е таксама.

Урэшце на прыгожай сцэне, асветленай двума пражэктарамі, стаіць калектыў з Боцек. На дзяўчынах сінія спаднічкі і белыя блузкі. Мужчыны ў цёмных нагавіцах і белых кашулях. Выглядалі хай не па-мастацку, але прыемна. Спявалі прыгожа, але нейк манатонна, не адчувалася жыцця, бадзёрасці. Пад канец пятай песні слухачы, скуліўшыся, пачалі шмыгаць у лес. Нас ахапіў жах. Але нічога не зробіш. Трэба брысці далей, аж да перамогі. Так падказвала сэрца.

Урэшце прыйшла пара і на нас. Выйшлі на сцэну. Народныя ўборы, у якія былі мы апрануты, доўгія каляровыя спадніцы, белыя блузкі і фартухі з беларускай вышыўкай, каляровыя хустачкі зацікавілі гледачоў, і тыя, што збіраліся пакінуць аўдыторыю — сал-

## ROD STEWARD



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала Данута Янчарак з Фальваркаў Тыльвіцкіх.

## Сардэчныя тайны

Сэрцайка, жыву я на вёсцы. Мне 20 год. Здаецца, што няма клопату. А я маю. І прашу цябе, дарагое, памажы.

Пазнаёмілася я з хлопцам у мінулым годзе на забаве ў суседняй вёсцы. Гулялі цэлы вечар. Ад гэтага часу прайшло ўжо паўгода. І мы спатыкаемся, пішам пісьмы. Толькі вось справа ў тым, што Валодзя любіць выпіць. А я не магу без яго жыць. Чым больш спатыкаемся, тым больш я да яго прывыкаю. Ужо мела я многа хлопцаў, але ніводзін не падабаўся мне так, як Валодзя. Чакаю пісьма ад яго, як збаўлення. Закахаўся і ён. Гэта відаць. Я не ведаю, што са мной зрабілася. Дрыжу ўся, калі яго ўбачу. Нікуды не выходжу, ні ў клуб, ні на забаву без яго. Што рабіць? Як з ім расстануся, то што-небудзь дрэннае мяне спаткае. Бо я ўжо не кірую сабой. Нікога я не слухаю. Толькі адно ў галаве — быць разам. Толькі вось гэтая перашкода — гарэлка. Я яму гаварыла: „Валодзя, пакінь яе. Будзем жыць разам“. Яму 25 год. Ён прысягаў, што пакіне. Але я пакуль што гэтага не бачу. У яго бацька алкаголік. Баюся, што і ён пойдзе следам бацькі. Часам і на спатканне прыходзіць пад хмяльком. Але ён здольны хлопец. Многа рэчаў прыгожых сам зробіць. На гаспадарцы знаецца. Робіць усё дакладна, чыста. Бацькі мае за гэта яго любяць. Парай, Сэрцайка, прашу цябе. Толькі цябе паслухаю. Чакаю адказу. Напішы. Спатыкацца далей — яшчэ больш уцягнуся. А можа пакінуць, пакуль яшчэ не запозна?..

Люцына з Бельшчыны

Люцына! Ад усёй душы хачу табе дапамагчы. Апынулася ты ў цяжкой сітуацыі. З аднога боку вялікае, адданае каханне, з другой — рассудак. Як пішаш, Валодзя хлопец здольны, працавіты, але п'е. І сапраўды бяда. Але якая прычына гэтага? Чаму п'е? Ці гэта дае яму прыемнасць, ці мо гэта ўцёк ад рэчаіснасці ў выніку чагосьці перажытага? А можа гэта спадчына па бацьку-алкаголіку... Бо і навукова даведзена, што алкагалізм неаднакратна перадаецца і дзецям алкаголікаў. Валодзю трэба ратаваць. І тут найбольш можаш зрабіць ты сама. Ён цябе кахае і ты маеш на яго найбольшы ўплыў. Катэгарычна патрабуй, каб пакінуў гарэлку. Скажы цвёрда: кілішак — або я. Калі заўважыш, што стараецца пакінуць, але яму цяжка (мо арганізм ужо прывык да алкаголю), дай яму апошнюю раду: хай пойдзе, нават і ты пайдзі з ім у супрацьалкагольную парадню. Тут найбольшыя шанцы на вылячэнне. Толькі тады, калі Валодзя пакіне гарэлку, можаш планаваць з ім супольнае жыццё. Памятай, што не зазнаеш сапраўднага сямейнага шчасця з мужам-п'яніцай. Алкагалізм знішчыць усё, нават найпрыгажэйшае, наймацнейшае каханне. Астанецца ў жыцці толькі вялікі кілішак няшчасця і горычы!

**Сэрцайка**

## Куток практычных ведаў

ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

Напрыклад, купілі мы кавалак мяса каля паўкілаграма. Ну і думаем цяпер, што з гэтага мяса зрабіць за страву. Можна было б, дакладна памыўшы мяса і дадаўшы вялікі пучок валашчыны, соль і крыху перцу, зварыць яго. Выняўшы з булёну, аддзяліць мяса ад косці і разам са зваранай гароднінай прапусціць праз мясарубку. Што робім далей з гэтага мяса?

### ФАРШ ДЛЯ БЛІНЧЫКАЎ ЦІ ПІРАЖКОЎ

Узяць змеленае мяса, 10 дэкаў пячурыц, 1 вялікую цыбуліну, соль, перац, лыжку тлушчу, зялёную пятрушку ці ўкроп. Памытыя пячурыцы парэзаць паласкамі, а цыбулю кружкамі. На вялікай патэльні разагрэць тлушч, палажыць цыбулю і пячурыцы, смажыць на даволі вялікім агні, памешваючы. Крыху падсмажыўшы грыбы і цыбулю, дадаць мяса, прыправы і хвіліну яшчэ смажыць. Зняўшы з агню, дадаць зяляніну, вымяшаць. Гэтым фаршам змазваць падсмажаныя блінчыкі, загортваць, а перад падачай падсмажыць.

Можна накладаць пакрысе фаршу на пірожныя квадрацікі, зробленыя з запаранага цеста (муку запарыць гарачай вадой, замясіць без яечка), заляпіць піражкі, зварыць іх у пасоленым кіпені. Падаючы, паліць падсмажаным салам ці грудзінкай, альбо проста маслам. Падаваць з салатам ці кіслымі агуркамі.

З гэткім фаршам можна зрабіць таксама дрожджавыя ці крухкія піражкі. (Цеста на крухкія піражкі: паўкілаграма мукі, 15 дэкаў маргарыны, 15 дэкаў кіслай смятаны, соль, крыху мускатнага арэха; на дрожджавае цеста: паўкілаграма мукі, адно яйцо, лыжка маргарыну, соль, 2 дэкі дражджэй, малако напалову з вадой). Цеста раскатаць на таўшчыню 1/2 см, парэзаць на палоскі шырынёю 5 см, пасярэдзіне класці фарш, зверху заляпіць цеста, адвярнуць „швом“ уніз, змазаць зверху збітым яечкам, пасыпаць кменам, парэзаць на піражкі, класці іх на змазаную тлушчам бляшку і пячы ў даволі гарачай духоўцы. Можна іх есці з усімі „чыстымі“ супамі, з чаем.

### МЯСНОЕ СУФЛЕ

Бярэм змеленае мяса, а на бешамелевы соус: 5 дэкаў масла, паўтары лыжкі мукі, шклянку малака, паўшклянкі смятаны, соль, перац, два жаўткі, пену з трох бялкоў, 2-3 лыжкі цёртага жоўтага сыра. З мукі і тлушчу зрабіць засмажку, развесці яе малаком і закіпяціць, памешваючы. Астудзіць, дадаць смятану, змешаную з жаўткамі. У соус дадаць мяса, прыправы і збітую пену з бялкоў. Усё размяшаць, палажыць у каструльку, змазаную тлушчам і пасыпаную цёртай булкай. Зверху пасыпаць цёртым сырам і запякаць у духоўцы каля паўгадзіны. Падаваць з салатай.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне, маё жыццё злажылася не надта весела. Маю я 12-гадовую дачушку і мела калісьці мужа. Ніяк не мог ён знайсці сабе месца ў жыцці, а мне з ім было нялёгка. Некалькі разоў паступаў у вышэйшыя школы, і заўсёды яму гэта ўдавалася, а вось нідзе не змог доўга нагрэць месца. Ведаю, чаму — працаваць не любіў, а работы ж было шмат і на эканоміцы, і на медыцыне, і на загранічным гандлі. Тлумачыў мне заўсёды, што гэта яшчэ не тая, уласцівая прафесія. Ніколі нідзе не працаваў ён, жылі мы з майго нядрэннага заробку, але дзяўчат любіў аж занадта. Часамі вяртаўся дахаты аж раніцай. Колькі ж можа цярпець чалавек? Урэшце і я не вытрымала. Развяліся чатыры гады таму назад, ён выехаў у Варшаву. Я яму заплаціла грошы на новую кватэру. Можна сказаць, што пра нас ён забыўся (не плаціў аліментаў, не рабіў ніякіх падарункаў дачцы). Праз два гады прыехаў і запрапанаваў падзяліць нашу мэблю, была яна стылёвая, залочаная. Мне стала шкада мэблі і кажу: „Мо няхай бы стаяла ў нас, такая ж яна прыгожая, шкада разбіваць камплект“. Ён аднак не згадзіўся, дык я запрапанавала яму забраць усё. Забраў нават піяніна, якое было прызначана для дачкі. Паехаў. Я абсталявала кватэру па-новаму, жыву спакойна.

Але вось на днях мне прысніўся ён. Быццам бы бег за мною, а ў руках меў шлюбную сукенку. Ён крычыць, што хоча брацьса мной ізноў шлюб, а я ад яго ўцякаю. Ускочыла я ў аўтобус, ён за мною. Я выскачыла, ён таксама. Тады я апынулася ў нейкім цягніку, у якім была я адна-аднюсенькая. Вельмі баялася. Ці зноў трэба чакаць ад яго нейкай прыкрай неспадзеўкі?

Аня з Беластока

Так, **Аня,** чакай ізноў. І будзе гэта не толькі сварка, аб чым сведчыла б тое, што ён ганяўся за табой са шлюбнай сукенкай у руках. Чакае цябе нават нейкая небяспека, бо ж гэты цягнік...

**Астрон**

## Этнаграфічнае акенца



*Народная разьба ў дрэве. Ганак пры адным з дамоў у вёсцы Збуч гм. Чыжы.* *Фота М. Гайдука.*

## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




### БАРАЦЬБА БАГОЎ...

Альфрэд Розенберг на дзіва спакойна выслухаў перапалоханага штурмбанфюрэра СС Вільгельма фон Кюнсберга.

— Пан фон Кюнсберг, — сказаў ён, — напішыце мне падрабязны рапарт аб сваёй паездцы. Нічога не ўтойвайце. Не забудзьце апісаць вашу размову з фельдмаршалам Кюхлерам. Вы мяне разумееце?

Кюнсберг старанна ўзяўся за работу і праз два дні ўжо ўручыў рапарт свайму начальніку. На гэтым яго місія закончылася. Але не закончылася барацьба за Янтарны пакой. Розенберг не адмовіўся ад думкі завалодаць ім. Тым не менш, ён добра разумеў, што можа гэтага дабіцца толькі абходным шляхам. Ён вырашыў змагацца. Тым больш, што пры выпадку не мог адыграцца на Коху, які не лічыўся з ім і адвяргаў усе яго палітычныя канцэпцыі адносна Украіны і ўкраінцаў.

Розенберг, якога падтрымлівалі некаторыя штабныя работнікі вермахта, дабіваўся ўтварэння „незалежнай“ украінскай дзяржавы, памылкова мяркуючы, што „свабодная“ ўкраінская дзяржава выставіць пяцімільённую армію, якую можна будзе кінуць на барацьбу з Савецкім Саюзам.

Цяпер ён старанна рыхтаваўся, каб раз і назаўсёды расквітацца з магутным гаўляйтэрам, адным махам адабраць у яго ўладу на Украіне, а заадно і Янтарны пакой. Таму ён загадаў сваім падначаленым сабраць падрабязную інфармацыю аб дзейнасці Коха на Украіне.

### КОНТРУДАР ГАЎЛЯЙТЭРА КОХА

У той жа дзень, калі Ламерс атрымаў дакладную запіску Розенберга, фотакопія гэтага дакумента з'явілася на пісьмовым стале Коха. Яму перадаў яе свой чалавек, адзін з работнікаў штаба Розенберга. Уважліва праштудзіраваўшы дакладную запіску Розенберга, Кох зразумеў, што настаў час для нанясення контрудару. Пакінуўшы Украіну на свайго намесніка, ён вярнуўся з Роўна ў Кенігсберг. Ужо на месцы ён даведаўся ад свайго партыйнага асведаміцеля, віцэ-гаўляйтэра Гростера, што Гітлер збіраецца наведаць штаб-кватэру ў Кентшыне.

Ён тут жа адправіў тэлеграму ў Берлін. У ёй паведамляў Гітлеру, што праз год пасля захопу Украіны з яе вывезена ў рэйх прадуктаў сельскай гаспадаркі, карысных выкапняў і прамысловых вырабаў на некалькі мільярдаў марак. Усё гэта старая ліса ўлагодзіла такімі слоўцамі, як „рады паведаміць вам, мой фюрэр“, „дакладна выконваючы вашы ўказанні і вусныя інструкцыі“. У канцы ён перадаваў Гітлеру навіну, якая павінна была зрабіць вялікае ўражанне на фюрэра: паведамляю, што ў нямецкай прамысловасці працуюць ужо больш як мільён украінцаў, „завербаваных“ на работу ў рэйх, дзякуючы чаму мільён нямецкіх мужчын можа ваяваць на фронце.

У той жа дзень гаўляйтэр звязаўся па тэлефоне з Марцінам Борманам і паведаміў яму аб інтрыгах групоўкі Розенберг-Ламерс, да якой далучыўся таксама Гебельс.

— Не звяртай на гэта ўвагі, Эрых, — супакоіў яго Борман. — Сёння ж ноччу я перадам тваю тэлеграму фюрэру.

— Паслухай, Марцін, я думаю, што ты паведаміш фюрэру аб планах і намерах Розенберга. Напомні яму пры выпадку аб бандах украінскіх партызан, якія перарэзваюць камунікацыі і знішчаюць транспарт, што прызначан для арміі. У значнай ступені гэта заслуга Розенберга. Ніхто іншы, як ён, наабяцаў ім бог ведае што і гладзіў іх па галоўцы. Цяпер яго патуранне выходзіць нам бокам.

— Можаш разлічваць на мяне, як заўсёды, — запэўніў яго Борман.

Падбадзёраны ўплывовым саюзнікам Кох заняўся неадкладнымі справамі ў сваёй усходне-прускай правінцыі. А ўжо на наступны дзень прыйшла тэлеграма з Берліна ад Гітлера.

Фюрэр дзякаваў „свайму партыйнаму таварышу“ — як цёпла ён называў гаўляйтэра — за работу па заваяванню і захоўванню Украіны і за яго ўклад у канчатковую перамогу. У канцы Гітлер выказваў надзею, што яго верны гаў-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Савецка-польская манаграфія Белавежскай пушчы

Рыхтуецца савецка-польская манаграфія Белавежскай пушчы. Выдавецтва „Лясная прамысловасць" з Масквы і Дзяржаўнае сельскагаспадарчае і лясное выдавецтва з Варшавы выдадуць супольна кніжку, якая будзе, абапіраючыся на выніках даследаванняў, праведзеных савецкімі і польскімі вучонымі, даступным спосабам прадстаўляць актуальны стан ведаў аб нашай жамчужыне. Чытачы змогуць дакладна пазнаёміцца з флорай і фаунай пушчы, яе гісторыяй, аховай ці гаспадаркай у ёй. Кожны раздзел у кніжцы будуць апрацоўваць двухасабовыя аўтарскія калектывы, у састаў якіх будзе ўваходзіць адзін аўтар з Польшчы і адзін з СССР.

Кніжка выйдзе ў двух моўных версіях — польскай і рускай. Рэдактарам манаграфіі з савецкага боку з'яўляецца В. Раманаў, з польскага — Я. Б. Фалінскі. З групы некалькіх дзесяткаў аўтараў варта прывесці прозвішчы М. Кавалькова, А. Уцянковай, В. Гельтмана, П. Міхалевіча, В. Парфенава, а з польскіх — С. Бароўскага, З. Пуцка, З. Красінскага, Ч. Аколува, Э. Венцка, С. Гранічнага і інш.

Нічога іншага не астаецца, як цярпліва чакаць гатовай манаграфіі. Будзе яна, бадай, найбольш каштоўным у цэлай гісторыі апрацаваннем Белавежскай пушчы.

**П. Байко**

## ПАРНАСІК
### ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### МАГІЛА НЕВЯДОМАГА БАЙЦА

*Гітлероўцы наступалі,*
*Быў тады суровы час,*
*Байца савецкага хавалі*
*У сасновым лесе ў нас.*

*Месцо выбралі прыгожэ —*
*Пры дарозе, край гары.*
*І жалезну агароджу*
*Яму зрабілі слесары.*

*На вайне ён быў німала,*
*Ні дабыў, каб даканца,*
*Многа лётала метала*
*І папала у байца.*

*Спіт баец у сне глыбокім...*
*Даўно мінуў суровы час.*
*Ён са ўсходу йшоў здалёка*
*І астаўся каля нас.*

*З зямлі роднай немцаў гналі*
*І загналі у Берлін.*
*Пра байца мы не узналі —*
*Чый ён бацька, чый ён сын?*

**Ф. Хлябіч**

ляйтэр будзе і ў далейшым працаваць гэтак жа аддана.

Гаўляйтэр Кох, задаволены, паціраў рукі. Гэта была яўная прыкмета, што Борман пачаў дзейнічаць і што рыбка клюнула. Цяпер заставалася цярпліва чакаць.

Коха падтрымлівалі Борман, Герынг і Гімлер. Гэта была сіла, якой ніхто ў трэцім рэйху не адважыўся б кінуць выклік. Калі б Розенберг быў назіральным або меў сваіх людзей у штабах, ён махнуў бы рукой на Янтарны пакой. Ён памылкова меркаваў, што мае справу толькі з сваім гаўляйтэрам Кохам. І недаацаніў свайго праціўніка.

Выпадак дапамог Коху ўбіць клін паміж Гебельсам і Розенбергам з яго ўкраінскімі канцэпцыямі. Кох атрымаў паведамленне з Роўна (якое ён зрабіў сталіцай Украіны і размясціў там свой штаб), што партызаны закідалі гранатамі і абстралялі аўтамабіль, у якім ехала на фронт група саноўнікаў з гебельскага міністэрства прапаганды. Усе загінулі.

Кох, не марудзячы, выкарыстаў гэты выпадак супраць трыумвірату Розенберг-Ламерс-Гебельс. Каб не аслабіць эфекту, ён забараніў паведамляць міністру прапаганды аб гібелі яго людзей і вырашыў зрабіць гэта сам пры асабістым спатканні з Гітлерам.

*(Працяг будзе)*

### НАВАГОДНЯЯ ЎРАЧЫСТАСЦЬ У ДУБІЧАХ ЦАРКОЎНЫХ

Школьная навагодняя ёлка ў Дубічах Царкоўных адбылася 13 студзеня ў будынку ГОКу пасля абеда. Адкрыў яе дырэктар школы Ян Копчук.

Пасля адбылася мастацкая частка Вучні нашай школы з усіх класаў спявалі розныя песні, выступаў таксама школьны хор пад дырэкцыяй Яна Шчэпаноўскага (настаўніка спеву), былі скетчы, гумары, вучні дэкламавалі вершы.

Пасля прыйшоў Дзед Мароз, які раздаваў падарункі. Дзед Мароз вельмі спадабаўся вучням і ўсім прысутным у зале, бо спяваў і танцаваў разам з дзецьмі і немагчыма было пазнаць у ім грам. Васіля Леанюка з вёскі Рутка.

**М. Панфілюк**

## Пра калядніка ў

Добры звычай — калядаванне. Хоць ён з году ў год патрошкі гіне, але яшчэ многа часу пройдзе, пакуль некаторыя звычаі зусім прападуць. Калісьці, помню, калі быў яшчэ школьнікам, бывала, не дачакаешся гэтага дня. Але і сёння бачу, амаль усе дзеці далёка яшчэ да свята вывучаюць калядкі, робяць звёзды. Хаця, прыпамінаю, калісьці было інакш, больш святочна, больш гарманійна...

У гэтым годзе таксама дзеці калядавалі. Сапраўды, прыемна пачуць прыгожыя нашы калядкі. А якая ўцеха для малышоў! У нас, у Дубічах Царкоўных, як і штогод, калядавалі моладзь і старэйшыя.

Каляды сапраўды ў нас праходзяць прыгожа і культурна.

**Мікалай Панфілюк**

## Цяжка лясной звярыне

Высокае снежнае пакрывала вельмі перашкаджае лясной звярыне здабываць корм. У Белавежскай пушчы лясная і паляўнічая службы не забываюць аб падкормліванні ў гэтых цяжкіх умовах чатырохногіх пушчанскіх жыхароў. У розных лясных закавулках размешчаны пункты, дзе выкладаецца авёс, кукуруза, кармавыя буракі, сена, збожжавыя астанкі і т.п. Ды ўсё-такі не ўся звярына зможа дайсці да кармушак. Напэўна многа яе прападзе, асабліва дзікаў, якія пры высокім снежным пакрывале хутка трацяць вагу і здыхаюць.

Алені ў Белавежы падыходзяць пад самыя жылыя будынкі. У пачатку студзеня 14 ланей увайшло аж за агароджу Палацовага парку. Падыходзілі яны пад музей, гасцініцу, паляўнічы дом. Вось да чаго можа давесці голад!

**П. Байко**

## Наша ПОШТА

**Юрка Трачук.** Вельмі добра, што вы так многа пішаце. У вялікай колькасці хутчэй можна знайсці нешта добрае, хаця, зразумела, не з'яўляецца гэта правілам. Вельмі цешыць тое, што ў вас штораз лепш з беларускай мовай. Адчуваецца толькі, што не хапае яшчэ вам слоў і, як заўважылі самі, пішаце са слоўнікам у руках. І гэта пакуль што разбівае вашу думку. Відаць, што хочаце вы сказаць адно, а падбіраючы словы і кантралюючы іх правільнасць, выходзіць другое. Прыкладна, у апошнім, прысланым вамі вершы „Р. Г." Вы тут хочаце выявіць сваё нешчаслівае каханне, але са слоў, якімі гэта перадаеце, цяжка вырашыць, ці гэта каханне ці дружба, ці нешта другое. Верш павінен быць ясным, а думка скандэнсаванай і зразумелай. Аб шматслоўі я вам ужо пісаў. Не ўводзьце слоў, якія не ўносяць нічога, а наадварот — разбіваюць думку. Старайцеся знайсці нешта сваё, арыгінальнае. Не спасылайцеся на Ясеніна ці Пушкіна. Вядома, вы пад вялікім іх уплывам, а тут яшчэ пішаце пра каханне, але ж вы кахаеце не так, як яны. У кожнага чалавека выглядае гэта інакш. І вось так, як адчуваеце, так і пішыце. Частку вершаў у бліжэйшы час надрукуем у „Парнасіку". Пішыце, бо задаткі на гэта ў вас ёсць. Трэба знаць літаратуру, але не паўтарайце сказанага. Жадаю поспехаў. Дакладнейшы адказ дам вам у лісце.

**(мш)**

### ЯК ПРЫМАЛІ МАЛАКО

Калі 31 снежня 78 года пачало задуваць дарогі, дык ужо 1 студзеня 1979 года вёска Белкі, што ў гміне Нараў, не змагла давезці малако на пункт скупкі ў Трасцянцы. Але ўжо 2 студзеня забралі малако, бо выйшлі людзі з лапатамі, расчысцілі дарогу так, што стала яна праяздной для легкавых машын. Тады ўжо з Гайнаўкі ў напрамку Беластока і наадварот ішлі машыны. Але з Гайнаўкі малачарня не прыехала ў Трасцянку забраць малако. Калі я завёз сваё малако на пункт скупкі ў Трасцянку, малачарка не мела дзе прыняць яго, бо папярэдняе ад 31 снежня яшчэ стаяла ў баку, а малачарня з Гайнаўкі і не думала яго забіраць, хоць дарога была добра расчышчана.

Пайшоў я з малачаркай на пошту, каб пазваніць у Гайнаўку, ці яны прыедуць па малако, ці можа ўжо і забыліся пра Трасцянку. Калі мы дазваніліся ў гайнаўскую малачарню і я пачаў гаварыць праз трубку тэлефона, пытаючыся, ці прыедуць па малако, бо ў нас на фурах у баньках замярзае, а з Трасцянкі ўжо пяць дзён не забіралі, то пачуў адказ, што прыедуць праз гадзіну, а мо і праз тры гадзіны, бо ў цэлай краіне цяжкая сітуацыя, і каб я чакаў з фурай і малаком у баньках.

Мне здаецца, што штосьці ў гайнаўскай малачарні дрэнна робіцца. Дарога праяздная, а яны не едуць. Сапраўды ў цэлай краіне было цяжка, але людзі гэта зразумелі і пайшлі памагаць у цяжкасцях, толькі малачарня ў Гайнаўцы не разумела. А можа яна не змагла і ў самым горадзе Гайнаўцы даставіць малако ў крамы? А можа тыя людзі ці солтысы, якія ачысцілі дарогі, чакалі шклянкі гарачага малака, а яно 5 дзён стаяла ў баку на пункце скупкі ў Трасцянцы.

Я чакаю адгалоскаў іншых карэспандэнтаў, каб яны напісалі, ці ў іх так малачарні клапаціліся пра малако, як у Трасцянцы?

**М. Лук'янюк**

## На сто дзён перад матурай

Бацькоўскі камітэт і дырэкцыя Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы на сто дзён перад матурай арганізуюць матуральны баль. Падрыхтоўка да сёлетняй студнёўкі распачалася ўжо ў снежні мінулага года. Сустрэліся разам бацькі і вучні матуральных класаў і разважалі над арганізацыяй. Быў створаны 11-асабовы арганізацыйны камітэт, у склад якога ўвайшоў вучнёўскі актыў і бацькі. Старшынёй яго быў выбраны Уладзіслаў Шліфарскі. Члены камітэта падзялілі паміж сабой функцыі.

Студнёўка адбудзецца ў вялікай зале Дома культуры „Гурнік", які бясплатна дала дырэкцыя ГПСДД у Гайнаўцы. Удзел прыме каля 200 асоб, у тым ліку 52 асобы — сёлетнія матурысты, педагогі і запрошаныя госці. Іграць будзе аркестр клуба ГЗПМЛ у Гайнаўцы. Залу ўпрыгожаць самі вучні.

Дзяўчаты ўжо рыхтуюць сабе балёвыя сукенкі — максі. Прадбачым, што хлопцы нашы будуць нарасхват, бо іх толькі дзесяцёра ў абодвух матуральных класах. Дзяўчаты са свайго боку паклапаціліся, каб мець партнёраў — запрасілі хлопцаў — вучняў з іншых гайнаўскіх сярэдніх школ.

**Анна Вяслава Казак**

### ПАТРЭБНЫ РАМОНТ

Адрэзак крывяціцкай вуліцы, які ідзе да Чорнага Лесу, поўны калдобін. У дажджлівую пару паверхня вуліцы раўняецца з паверхняй вады ў сажалках, якія знаходзяцца з левага боку вуліцы. Тады тут вельмі цяжка прабрацца.

На маю думку, трэба каб сяляне зрабілі пачын, а ўлады гміны ў Орлі ўвялі ў план рамонтаў кусок гэтай вуліцы і супольна зрабілі парадак.

**Іван Кірызюк**

### НЕПАРАДКІ НА БАЗЕ

За вясковай крамай у Крывяцічах ёсць база СКРу. Тут балаган. Стаіць некалькі сельскагаспадарчых машын, не забяспечаных перад іржавеннем. Доўгі час стаіць недабудаваны будынак, не забяспечаны на зіму. Нішчэюць сцены і дах. Сваім выглядам база паскудзіць выгляд сяла Крывяцічы.

**Іван Кірызюк**

### НЯХАЙ ЖЫВЕ БАЖЭНА!

Хоць гэта ўжо было і даўно. але мне гэтую справу хочацца падаць у „Ніву". А было гэта так: мы мелі касіць авёс машынай і я паехала ў Беласток за каўбасой. Заехала, заняла чаргу і пайшла ў другую краму. Потым прыйшла, зноў стала за каўбасой, дайшла аж да прылаўка. Я да грошай, каб плаціць, а іх няма. Аж мне горача стала. І кажу, што нехта выняў з кішэні. Усе кажуць, што не. І каб я пайшла ў тую краму, дзе была раней. Пайшла я туды і пытаю, ці не пакінула грошай, а тая скляповая адразу кажа: пакінула, і аддае мне ўсе 860 зл. Я ёй за гэта давала сто злотых, але яна не захацела нічога. Падзякавала я, пайшла, але вярнулася да яе і папрасіла адрас.

Хачу, каб у газеце была апісана гэтая падзея і падзяка той прадаўшчыцы. Няхай яна здарова жыве і бяды не знае. Крама тая № 24 была на вуліцы Крашэўскага, а прадаўшчыца называецца Бажэна Шміглеўская.

**Марыя Рубчэўская,**
веска Церамкі

### ПРЫКЛАДНЫ ПРАЦАЎНІК

Ужо 12-ты год працуе на пункце скупкі малака ў Трасцянцы, Нараўскай гміны, Надзя Максімчук. Яна стараецца, каб кожнаму пастаўшчыку малака дагадзіць, заўсёды з усмешкай на твары і ветлівасцю да людзей. На пункт скупкі малака ў Трасцянцы прыемна зайсці. Там заўсёды пануе ветлівасць і прыкладны парадак.

Варта, каб Акруговая малачарня ў Гайнаўцы якраз такіх працаўнікоў узнагароджвала чым-небудзь.

**М. Лук'янюк**

## АДГАЛОСКІ

### У СНЕГ, ЯК У ЦАРКВУ...

Прачытаў вашу старонку — рэцэнзію на тэму верша „У снег, як у царкву, можна ўвайсці". І што я магу сказаць, прачытаўшы гэты артыкул? Верыць, ці не верыць аўтару? Прызнаць ці не прызнаць рацыю? Не памятаю я гэтага верша. Дайце магчымасць самому чытачу прачытаць верш і ацаніць яго, а потым параўнаць сваю ацэнку з ацэнкай аўтара рэцэнзіі.

Ваш сталы чытач **Янка Т.**,
Гурова каля Ольштына

### ВЕСТКІ З ЧЭХАЎ АРЛЯНСКІХ

У вёсцы Чэхі Арлянскія, Дубіцкай гміны, ізноў адкрылі краму. Змяшчаецца яна ў адной палавіне будынка колішняй школы, пабудаванай пасля вайны, дзе таксама нейкі час дзейнічаў клуб селяніна. Таргуе мясцовая грамадзянка Марыся Самасюк, якая стараецца, каб у новай краме былі ўсе неабходныя тавары для сялян, як спажывецкія, так і прамысловыя.

Жыхары задаволены крамай і на месцы ўсё могуць купіць, тым больш, што некалькі гадоў таму назад была тут крама, але па нейкай прычыне яе хутка закрылі. І аж па сённяшні дзень жыхары вёскі былі вымушаны хадзіць за пакупкамі, нават дробяззю, за тры кіламетры ў Дубічы Царкоўныя.

*

Другая палавіна будынка колішняй школы, дзе змяшчаецца крама, прызначаецца на святліцу — так рашылі жыхары вёскі Чэхі Арлянскія. Галоўным ініцыятарам гэтай карыснай справы з'яўляецца солтыс гэтай вёскі Мікалай Якубюк.

Гміна ў Дубічах Царкоўных падтрымала гэтую ініцыятыву і са свайго бюджэту плаціць за вугаль і на светліцовага, які робіць на паўштаце, так як святліца адкрыта па суботам, нядзелям і ў іншыя святочныя дні, а таксама тады, калі ў вёсцы адбываецца нейкі сялянскі ці маладзёжны сход.

**М. Панфілюк**

